# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№10 (218)
2018 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

## АХВЯРЫ «ДАРОГІ СМЕРЦІ»

**77 гадоў таму, 26 чэрвеня 1941 года, у вёсцы Мікалаева, каля мястэчка Вула Бешанковіцкага раёна, савецкія канваіры расстралялі калону вязняў беразвецкай турмы.**

У Беразвеччы (зараз частка Глыбокага) знаходзілася турма НКВД. Калі пачалася вайна, савецкія ўлады вырашылі эвакуяваць здаровых вязняў, якія былі патрэбныя як рабочая сіла, на ўсход. 24 чэрвеня іх пагналі пешшу да Віцебска. Шмат вязняў было забіта на тэрыторыі турмы ў Беразвеччы, шмат забівалі па дарозе.

Упоўдзень 26 чэрвеня 1941 года калона перайшла мост праз Дзвіну. У гэты час у небе з'явіліся нямецкія самалёты, з якіх былі зробленыя стрэлы па канваірах. Пасля гэтага канваіры расстралялі з кулямётаў усю калону. Колькі людзей было забіта, няма дакладнай лічбы і зараз. Па розных ацэнках, там загінулі ад некалькі соцень да двух тысячаў чалавек. Гэта былі жыхары Глыбокага, Шаркаўшчыны, Дзісны, Паставаў, Докшыц, Мёраў і навакольных вёсак і мястэчак. Поўны спіс вязняў недаступны і зараз, бо знаходзіцца ў закрытых архівах.

Шлях вязняў з Глыбокага да Мікалаева атрымаў назву «Дарога смерці». Адметнасць гэтай трагедыі ў тым, што большасць гэтых людзей не была асуджаная нават па тагачасных савецкіх законах, яны проста знаходзіліся пад следствам. Шмат людзей было забрана ў апошнія дні — з 22 па 24 чэрвеня. Па апошняй інфармацыі, тут былі забітыя і два каталіцкія святары.

Зараз тут кожны год 26 чэрвеня ў 11 гадзін адбываецца святая Імша за душы бязвінна забітых людзей.

У гэтым годзе ў Мікалаева прыбылі пробашч з Глыбокага ксёндз Мікалай Ціхановіч, пробашч з Ушачаў ксёндз Віталь Галец, пробашч з Шуміліна айцец Анджэй Юхневіч, ксёндз Вячаслаў Барок, які служыць у Віцебску і Расонах, супрацоўнік Віцебскай курыі айцец Клеменс Верт. Апошняму упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка не дазволіў выконваць абавязкі святара ў Беларусі, бо айцец Клеменс — грамадзянін Расіі. Таму ён прысутнічаў на Імшы як звычайны вернік. Прыйшлі таксама мясцовыя вернікі.

Усіх прывітаў пробашч парафіі ў Мікалаева ксёндз Аляксандр Півавар, які папрасіў ксяндза Мікалая Ціхановіча, пробашча з Глыбокага, ўзначаліць гэту Імшу. Ксёндз Мікалай адзначыў, што для глыбоцкай парафіі гэта асаблівае месца, бо тут загінулі людзі, частка з якіх была ў свой час глыбоцкімі парафіянамі. Таму ён заклікаў маліцца за іх душы, а таксама за тое, каб такая трагедыя больш не паўтарылася.

Са словам да вернікаў звярнуўся ксёндз Вячаслаў Барок. Ён адзначыў, што тут ляжаць парэшткі бязвінна забітых людзей, ахвяр камуністычнага рэжыму. Мы і зараз дакладна не ведаем іх колькасць, бо архівы закрытыя. Святар адзначыў, што ў нашай краіне не будзе будучыні, пакуль дзяржава і грамадства не асудзіць камунізм, як у свой час быў асуджаны нацызм. Засакрэчванне архіўных звестак святар назваў шляхам у нікуды. Гэтым цяперашняя ўлада кідае цень таго злачынства і на сябе.

**Весткі-інфа**

ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

## УПЭЎНЕНА ВЫМІРАЕМ

**Упэўнены рост амаль па ўсіх паказніках развіцця падае Нацыянальны статыстычны камітэт па Бешанковіцкаму раёну за пяць месяцаў 2018 года.**

У раёне расце вытворчасць у прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы, растуць аб'ёмы гандлю і зарплата.

Вось толькі насельніцтва раёна няўмольна катастрафічна змяншаецца. Яшчэ нядаўна нас было 16 000 чалавек, а зусім хутка будзе 15 000. Прынамсі за 5 месяцаў адносна мінулага года ў раёне нас паменела яшчэ на 227 чалавек. І гэта не толькі пенсіянеры, што памерлі. Колькасць насельніцтва, якое занята ў эканоміцы, за гэты час зменшылася на 204 чалавекі.

На 1.06.2018 года ў Бешанковіцкім раёне засталося 15 399 чалавек.

Намінальная налічаная сярэднемесячная зарплата за 5 месяцаў у раёне складае 590 рублёў 40 капеек. Гэта 77,2% ад сярэднеабласной зарплаты. Калі адмінусаваць ад яе чыноўніцкія аклады, то малюнак будзе зусім нерадасны. На 300 рублёў у месяц жыць як-небудзь пражывеш, а вось размнажацца, вядома, не захочацца.

**М.Васільеў**

## ****

*Сьвітанак барвовы*
*на ўсходзе ўстае*
*і крочыць імкліва насустрач.*
*Ты зноў уваходзіш у мроі мае,*
*як стрэмка пад скуру – балюча.*

*Ды болю свайго не пачую нібы,*
*сьлязою душыцца ня буду:*
*як п'яны мужык,*
*што напіўся з журбы,*
*ўпішуся ў пейзаж беспрабудны.*

*Раськінуся ў млявым,*
*пустым забыцьці*
*збуцьвелым крыжом*
*прыдарожным,*
*і сьцісьнецца сьвет*
*да сузор'я мясьцін,*
*што памяць балюча трывожаць.*

*Хай плойма ўспамінаў*
*вярэдзіць душу –*
*ня буду іх пераніцоўваць.*
*Каб не цьверазець,*
*зноў і зноў асушу*
*Твой келіх віна дзьмухаўцовы.*

*І горычы хопіць у ім, і цяпла,*
*і нават бацькоўскай спагады…*
*Куды ж Ты, куды Ты ўсіх нас завяла*
*і далей вядзеш безаглядна?*

*Лепш мне сярод жыта*
*пасьцель пасьцялі,*
*прыкрый прасьцірадлам нябёсаў,*
*дзе ў зорную вечнасьць*
*плывуць караблі*
*на пошукі згубнага лёсу.*

**Г.Станкевіч**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

АРХЕАЛАГІЧНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ

## ХТО ЖАДАЕ ДАПАМАГЧЫ АРХЕОЛАГАМ?

**Сёлета экспедыцыя на Крывінскі тарфянік адбудзецца з 23-га ліпеня па 5-га жніўня.**

Крывінскі тарфянік – унікальны археалагічны комплекс неаліту-бронзавага веку на тэрыторыі Беларусі і Усходняй Еўропы, размешчаны ў паўднёвай часткі Беларускага Паазер'я, на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў Віцебскай вобласці.

Тут знаходзяцца 10 археалагічных помнікаў 4-га — 2-га тыс. да н.э: Асавец 1, Асавец 2, Асавец 3, Асавец 4, Асавец 5, Асавец 6, Асавец 7, Крывіна 1, Крывіна 2, Крывіна 3. Усе яны або храналагічна наследуюць адзін аднаго, або суіснуюць у часе. Увынікуўрэгіёнемагчымасварэнне непарыўнай культурна-храналагічнай рэканструкцыі працягласцю каля 2-х з паловай тысяч гадоў.

Найбольш адметным момантам, які вылучае дадзены археалагічны комплекс ад іншых на тэрыторыі Беларусі, гэта тое, што восем з дзесяці вядомых тут помнікаў з'яўляюцца тарфянікавымі. Як вынік, культурны слой паселішчаў утрымлівае не толькі керамічныя і крамянёвыя артэфакты, звычайныя для іншых помнікаў гэтага часу, але і артэфакты з косткі, рогу, дрэва, кары, бурштыну. А гэта дае вельмі шмат дадатковых магчымасцяў для рэканструявання духоўнай і матэрыяльнай культуры, побыту старажытных жыхароў паўночнай Беларусі.

Археалагічныя даследаванні праводзяцца экспедыцыяй Інстытута гісторыі НАН Беларусі і маюць рэгулярны штогадовы характар, праходзяць у ліпені — жніўні. Калі вы жадаеце далучыцца да даследаванняў аднаго з найбольш выбітнага археалагічнага комплекса на тэрыторыі Беларусі — археолагі будуць рады вас бачыць.

У 2018 годзе экспедыцыя адбудзецца з 23-га ліпеня па 5-га жніўня.

Калі Вы маеце жаданне прыняць удзел у экспедыцыі, калі ласка, азнаёмцеся з умовамі, якія прапануюць арганізатары экспедыцыі і запоўніце заяўку. Усё гэта размешчана на сайце asaviec.by.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах сайта asaviec.by**

ЗАБЫТАЯ ГІСТОРЫЯ

## ГАБРЭЙСКІЯ МОГІЛКІ

**Першымі ініцыятарамі добраўпарадкаваньня габрэйскіх могілак у Бешанковічах стала лекарка з Санкт-Пецярбургу Ганна Клімовіч і яе сын Аляксандар.**

Калісьці ў Бешанковічах жыла бабуля Ганны Клімовіч па бацькавай лініі. Сваякі амаль зьмірыліся з тым, што ўся памяць пра бешанковіцкіх габрэяў зьнікла. Але спадарыня Ганна вырашыла паглядзець на свае вочы, што за мястэчка Бешанковічы, у якім жылі яе продкі.

У красавіку 2014 году яе з сынам сустрэла на ўскраіне Бешанковічаў роспачнае відовішча: сотні надмагільных камянёў, дзе паваленых, дзе ўрослых у зямлю, а панавокал бруд і крапіва. Тыя мацэйвы, што стаялі, яны з сынам пачалі фатаграфаваць, каб па вяртаньні ў Санкт-Пецярбург перакласьці надпісы, зробленыя на іўрыце.

«Мы зразумелі, што знайсьці тут пахаваньні сваякоў — шанцы мізэрныя. І тут прыйшло адчуваньне, што мы ня можам пакінуць гэта як ёсьць — калі надмагільныя камяні нашых продкаў валяюцца ў зарасьніках, у брудзе, побач зь бітымі бутэлькамі», — кажа Ганна Клімовіч.

Улетку 2015 году яна прывезла ў Бешанковічы першую групу валянтэраў. Яны зарганізаваліся праз інтэрнэт, і з тае пары такая практыка стала звычайнай. Разам працуюць вернікі-юдэі, іхрысьціяне — прадстаўнікі розных канфэсій, розных нацыянальнасьцяў. Знайшліся і мэцэнаты, ахвотныя прафінансаваць працу, у тым ліку нашчадкі выхадцаў зь Бешанковічаў, якія жывуць у Санкт-Пецярбургу, Ізраілі і Амэрыцы.

Гэтымі днямі ў Бешанковічах завяршае працу ўжо 12-я па ліку валянтэрская група. Апрача валянтэраў, сюды выяжджала з палявой экспэдыцыяй каманда маскоўскага аб'яднаньня «Сэфэр». Яны правялі асноўную працу па каталягізацыі — пранумаравалі, сфатаграфавалі і перапісалі 1300 камянёў-мацэйваў. Надпісы, дзе-нідзе зьнішчаныя часам, перакладаюць з іўрыту, каб зрабіць адмысловы каталёг для тых, хто хоча прыехаць у Бешанковічы ды пакланіцца магілам сваякоў.

Такія ахвотныя ўжо ёсьць, кажа сын спадарыні Ганны, сталы ўдзельнік валянтэрскіх выездаў. «Мы расчысьцілі

*(працяг на стар. 2)*

ЗАБЫТАЯ ГІСТОРЫЯ

*(пачатак на стар. №1)*
ўжо тры чвэрці тэрыторыі могілак, знайшлі яшчэ з паўсотні мацэйваў, апрача зафіксаваных у ранейшыя гады. І ўжо прыязджалі людзі зь Нямеччыны, Швайцарыі, Амэрыкі, якім удалося адшукаць магілы сваіх сваякоў ужо цяпер — да таго, як зроблены канчатковы каталёг».

Яшчэ адзін сталы ўдзельнік валянтэрскіх груп — мясцовы краязнаўца Станіслаў Леаненка. Так склалася, што ў сёлетняй групе ён адзіны беларус, астатнія валянтэры прыехалі з Расеі. Усім прыежджым ён расказвае трагічную гісторыю Бешанковіцкага гета, зьнішчанага ў 1942 годзе — пасьля гэтага габрэяў у мястэчку практычна не засталося.

Спадарыня Ганна адзначае, што працы добраахвотнікаў спрыяюць мясцовыя ўлады. Але пакуль не ўдаецца дамагчыся, каб могілкам надалі статус культурна-мэмарыяльнай каштоўнасьці.

Ганна Клімовіч прызнаецца: ня ўсе аднадушна ўхваляюць дзейнасьць валянтэраў. Справа ў тым самым кананічным прынцыпе «непарушнасьці магіл»: паводле традыцыі супакой памерлых трывожыць забараняецца, таму на могілках нельга рабіць нічога, не прадугледжанага рэлігійнымі абрадамі.

На думку спадарыні Ганны, нельга лічыць парушэньнем канону праявы ўвагі ды павагі. Дый дзеяньні валянтэраў могуць патрывожыць спакой нябожчыка хіба тым, што камень зь ягоным імем будзе падняты зь зямлі.

Дарэчы, якраз такім чынам Ганьне Клімовіч удалося зьдзейсьніць сваю даўнюю мару — знайсьці пахаваньні сваякоў.

«У першай жа экспэдыцыі мы знайшлі камень незвычайнай формы — з трыма гранямі і амаль аднолькавымі надпісамі на дзьвюх. Я так насілася з гэтым каменем, што прадстаўнік віцебскай габрэйскай грамады Міхаіл Шульман мяне зь ім сфатаграфаваў. Калі надпіс пераклалі, то высьветлілася, што гэта пахаваньне мужчыны. Прозьвішча на камені не было, але дата сьмерці, імя і імя па бацьку супалі з тымі зьвесткамі, што былі вядомыя нашай сям'і! Атрымалася, што я знайшла магілу майго прапрадзеда!» — кажа спадарыня Ганна…

Ганна Клімовіч разумее, што аднаго толькі добраўпарадкаваньня могілак вельмі мала, каб адрадзіць памяць пра габрэяў, якія жылі ў Бешанковічах. Яна лічыць неабходным вярнуць у Бешанковічы імя мастака Саламона Юдовіна — тутэйшага ўраджэнца, які ў свой час сабраў унікальную калекцыю фатаздымкаў габрэйскіх паселішчаў, зафіксаваў габрэйскі арнамэнт на надмагільлях Валыні і Падольля…

**Радыё Свабода**

СВАБОДА СУМЛЕННЯ

# ПІША АЙЦЕЦ ВЯЧАСЛАЎ БАРОК

**Маё пытанне: Дзень Рэспублікі — гэта Дзень Незалежнасці або залежнасці?**

Кожная краіна мае такі дзень, калі святкуецца тое, што аб'ядноўвае ўсю нацыю, — гэта Дзень Незалежнасці, Дзень Рэспублікі.

У нас ужо каторы год такім днём ёсць 3 ліпеня. Дата прымеркаваная да дня вызвалення Мінскаад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Што там тое і казаць — падзея слаўная! І нельганіяк забыцца на яе. Фашызм — гэта трагедыя сусветнага маштабу. Жыццё чалавека ёсць абсалютнай каштоўнасцю, а таму і памяць пра тых, хто загінуў, павінна быць святой…

Святкаванне Дня Незалежнасці і атаясамліванне яго выключна з перамогай над фашызмам асабіста мяне змушае яшчэ раз пераканацца ў сваіх думках: перамогу здабылі, а стану незалежнасці, на жаль, так яшчэ і не асягнулі.

З прыкрасцю, але трэба сказаць, што вызваленне ад фашызму не прынесла Беларусі свабоды. Немагчыма ж прамаўчаць пра палітычныя рэпрэсіі, галадамор, перасяленні... Гэтым з'явам спадарожнічалі сотні тысяч ахвяраў і несправядлівых смерцяў нашых суграмадзян.

Хтосьці скажа: але ж гэта іншая гісторыя! Іншая то іншая, але ж наша.

Святкуючы перамогу над фашызмам і не асудзіўшы злачынствы камуністычнага рэжыму, мы пішам старонку гісторыі нашай краіны і абапіраемся на фальшывыя сведчанні. Як сказаў папа Францішак: «Усе дыктатуры пачыналіся так: з фальсіфікацыі інфармацыі, з пераходу камунікацыі ў рукі адной несумленнай асобы, несумленнага ўрада».

А значыць, і сучасная старонка нашай гісторыі становіцца падобнай да мінулай, калі панаваў таталітарны рэжым, пры якім, як вядома, чалавек і ягонае жыццё не ўяўляла абсалютнай каштоўнасці. Чалавек — гэта нішто! Важна — парадак.

А таму і атрымліваецца: маем вайсковыя парады, і калоны вайсковай тэхнікі дэманструюць сваю перавагу над усім, у тым ліку над спецтэхнікай МНС і хуткай дапамогі. Пытанне: яны паспелі? Што сталася з тымі людзьмі?

Хтосьці скажа, што я нагнятаю, перабольшваю. Добра, я магу прамаўчаць.

Дарэчы, я б наогул не задаваў аніякіх пытанняў, каб іх не задавалі памерлыя, несправядліва загінулыя, а больш дакладна — іх косці, якія ўздымаюцца з-пад зямлі. Ім, усё адно як быццам бы не ляжыцца пад зямлёй.

Я пра Хайсы, што пад Віцебскам.

Там ляжаць косці несправядліва забітых людзей. Яны дагэтуль непахаваныя. Яны кожны год вылазяць з-пад зямлі. І нібы моўчкі шукаюць людзей, якія б ушанавалі іх памяць. Я хадзіў па хайскім узлеску, сам браў у рукі раскіданы гумовы абутак, вытрасаў з яго зямлю, а разам з ёй высыпаліся людскія косткі, бачыў чарапы з адзінай дзіркай у патыліцы.

Гэта ўсё Хайсы. Там ляжаць парэшткі тысяч чалавек, якія былі забітыя НКВД перад вайной. А колькі ж такіх магіл на Беларусі! Іх столькі, што можна меркаваць: камуністычны рэжым сістэматычна вынішчаў наш народ. І немагчыма не задаць пытанне: ці гэта не быў генацыд супраць беларускага народа? Фактам ёсць, што ад чырвонага рэжыму ў Беларусі загінула людзей не менш, чым ад фашыстаў падчас вайны. Фактам ёсць, што сістэматычна вынішчалася культура Беларусі. Нішчылася мова — душа народа. І ў пэўны момант знішчэнне Беларусі дайшло да такой мяжы, што сёння небяспечна можа прагучаць пытанне: ці наогул існуе такі шанец на адраджэнне беларускай нацыі?..

Я веру ў Хрыста, які кажа: «Пазнайце праўду, і праўда вызваліць вас» (Ян 8, 32).

А таму, калі хочам сапраўднага вызвалення, свабоды і незалежнасці, можа, варта перастаць блефаваць, ладзячы вайсковыя парады. Хопіць крывадушнічаць праз ушанаванне ахвяраў фашызму і ўпартае незаўважанне ахвяраў камунізму, якія ляжаць побач, а часцяком у тых самых магілах. Давайце пазнаем гістарычную праўду і адкрыем усе архівы. Давайце рассакрэцім тыя злачынствы, доказы якіх яшчэ сёння захоўваюцца ў тэчках з грыфам «сакрэтна».

Аднак праўдай ёсць тое, што несправядлівым рэжымам ёсць што хаваць. Пераконвае нас у гэтым досвед іншых краін, напрыклад Літвы і Украіны. У іх рассакрэцілі архівы, і гісторыкі сёння раскрываюць злачынствы супраць народа.

Мы, беларусы, дзеці катаў і дзеці ахвяраў, на ўзроўні падсвядомасці адчуваем паміж сабою прорву. І калі мы розныя, хочам мірна жыць у адной краіне, то павінны задумацца над тым, што зрабіць, каб паяднацца і прымірыцца паміж сабою і са сваёй гісторыяй.

…Нам усім патрэбна пакаянне, а не вайсковыя парады.

Трэба адкрыць архівы, каб спазнаць гістарычную праўду, пазнаць злачынствы. Трэба акрэсліць зло, яго межы, каб можна было ў ім пакаяцца.

І, пакаяўшыся ў злачынствах мінулага, мы, нашчадкі катаў і ахвяраў, зможам працягнуць сабе ўзаемна рукі для прымірэння.

Калі гэта настане, то гэта і будзе дзень сапраўднага вызвалення і пераломны момант нашай гісторыі, бо дзякуючы яму мы атрымаем магчымасць распачаць будаўніцтва нашага супольнага дома, імя якога — Беларусь, нашай Рэспублікі.

**Facebook**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫМІ!

# ПРА ШАЛЕНСТВА

**За паўгода ў Бешанковіцкім раёне лабараторна пацверджана 16 выпадкаў шаленства сярод жывёл. У тым ліку кот хатні - 4, сабакі хатнія - 3, лісы - 6, каза хатняя - 1. Усяго звярнулася за антырабічнай дапамогай 23 чалавекі (у горадзе 7 чалавек, у вёсцы — 16).**

Поўны курс антырабічнай вакцынацыі атрымліваюць 13 чалавек.

Усяго прызначана лячэбна-прафілактычных прышчэпак 23 асобам.

Шпіталізаваны 1 чалавек.

Шаленства - (вадабоязь) гэта вострае інфекцыйнае захворванне нервовай сістэмы, якое выклікаецца спецыфічным вірусам. Захворванне з'яўляецца смяротным як для жывёл, так і для людзей.

Хварэюць на шаленства як дзікія драпежныя, так і хатнія, а таксама сельскагаспадарчыя жывёлы. У арсенале ў медыцынскіх работнікаў маюцца досыць эфектыўныя лекавыя сродкі (вакцына і імунаглабулін), аднак яны гарантуюць абарону ад захворвання на шаленства толькі пры своечасовым звароце пацярпелых медыцынскую дапамогу (хірургу, траўматолага).

Шаленства можна папярэдзіць для чаго варта ведаць і выконваць наступныя правілы паводзін:

Неабходна выконваць устаноўленыя правілы ўтрымання хатніх жывёл (сабак, котак) і штогод у абавязковым парадку прадстаўляць у ветэрынарную станцыю па месцы жыхарства для правядзення прафілактычных прышчэпак супраць шаленства.

У тых жа выпадках, калі кантакту пазбегнуць не ўдалося, а менавіта пасля ўкусу, драпін, абсліньвання пашкоджаных скурных пакроваў і слізістых абалонак, нанесеных любой, нават здаровай на знешні выгляд жывёлай, неабходна правесці першасную апрацоўку раны - старанна прамыць рану моцным мыльным растворам, а краі раны апрацаваць 70 спіртам ці 5% настойкай ёду (гэта забівае да 80% віруса), а затым звярнуцца па дапамогу ў медыцынскую ўстанову. Толькі лекар ацэніць рызыку магчымага заражэння вірусам шаленства і прызначыць пры неабходнасці прышчэпачны курс.

Шаленства з'яўляецца смяротным захворваннем, а комплекс антырабічных прышчэпак адносіцца да надзейных сродкаў яго папярэджання.

Ні ў якім разе не варта адмаўляцца ад прызначанага лячэння і самавольна перарываць яго, гэта можа прывесці да трагічных наступстваў.

У цяперашні час поўны прышчэпачны курс складаецца з 6 ін'екцый вакцыны, а з улікам вынікаў назірання за хатняй жывёлай (сабакам або коткай), можа быць па рашэнні ўрача скарочаны. Не варта забіваць хатнюю жывёлу, якая пакусала або падрапала якога-небудзь чалавека, за ёй павінна быць ўстаноўлена 10-дзённае назіранне.

Варта пазбягаць кантактаў з дзікімі жывёламі, якія завіталі ў населеныя пункты. Аб такіх выпадках неабходна тэрмінова паведаміць у ветэрынарную службу.

Пры выяўленні трупаў жывёл, ня варта чапаць іх, здымаць скурку, а ў абавязковым парадку паведаміць у ветэрынарную службу.

**Памочнік урача-паразітолага ДУ «Бешанковіцкі рЦГЭ» Н.Байдакова**
**beshenkovichi.vitebsk-region.gov.by**

ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# НАС ПАМЕНЕЛА НА 759 206 ЧАЛАВЕК

**На столькі, згодна з афіцыйнай статыстыкай, зменшылася колькасць жыхароў Беларусі за 24 гады, калі краінай кіруе Аляксандр Лукашэнка.**

На пачатак 1994 годзе насельніцтва краіны дасягнула гістарычнага максімуму — 10 млн 243 тысячы чалавек. 10 ліпеня 1994 года Лукашэнка выйграў прэзідэнцкія выбары, праз 10 дзён адбылася інаўгурацыя. Па іроніі лёсу, у гэты час у Беларусі пачынаецца зацяжны дэмаграфічны спад.

На пачатак 1995 года ў Беларусі жыве 10 млн 210 тысяч чалавек. У 2001 годзе краіна праходзіць "псіхалагічны парог" у 10 млн — насельніцтва скарачаецца да 9 млн 956 тысяч. І працягвае падаць аж да пачатку 2014 года, калі ўпершыню з сярэдзіны 1990-х зафіксаваны невялікі рост.

759 тысяч 206 чалавек — гэта больш, чым жыве ў Гомелі, і больш, чым сумарна жыве ў любых двух іншых беларускіх абласных цэнтрах. Гэта 27 такіх раёнаў, як Шклоўскі раён Беларусі, дзе Аляксандр Лукашэнка ў свой час кіраваў саўгасам "Гарадзец". Уявіце сабе, што Беларусь паменшала на 27 раёнаў…

І самае дзіўнае: лічба ў 759 тысяч 206 чалавек містычным чынам амаль супадае с колькасцю выбаршчыкаў, якія ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў 1994 года прагаласавалі… за Зянона Пазняка! Іх было 757 тысяч 195.

Высновы рабіце самі.

**Еўрарадыё FM**

*P.S. У Бешанковіцкім раёне на 01.01. 1996 пражывала 24 700 чалавек. На 01.06.2018 тут засталося 15 399 чалавек. То-бок за 22,5 гады кіравання Лукашэнкі ў Бешанковіцкім раёне знік 9 301 чалавек, што складае 38% насельніцтва раёна*

ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ

# ЦЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Будзем шчырымі: для Лукашэнкі беларуская незалежнасць асаблівай каштоўнасці не ўяўляла ніколі. Яна заўсёды калі не была, то разглядалася ў якасці разменнай манеты. І ён бы гэтую манету папросту размяняў — калі б яму было прапанавана нешта большае.**




Заява Лукашэнкі падчас нарады ў Шклоўскім раёне пра тое, што «мы на фронце», і калі «не вытрымаем гэтыя гады, правалімся, — значыць, трэба будзе ці ў склад якойсьці дзяржавы ісці, ці аб нас проста будуць выціраць ногі, а не дай Бог — развяжуць яшчэ вайну», нарабіла шмат вэрхалу. Над значэннем гэтых словаў чухаюць патыліцы шматлікія аналітыкі і палітолагі. Але цікава, як Аляксандр Рыгоравіч прыйшоў да такой высновы.

Будзем шчырымі: для Лукашэнкі беларуская незалежнасць асаблівай каштоўнасці не ўяўляла ніколі. Яна заўсёды калі не была, то разглядалася ў якасці разменнай манеты. І ён бы гэтую манету папросту размяняў — калі б яму было прапанавана нешта большае.

Ёнужо спрабаваўгэта зра¬біць, стварыючы з Расіяй Саюзную дзяржаву ў 1999-м. Відавочна, што тады Аляксандр Рыгоравіч, прасоўваючы той праект, разлічваў заняць вышэйшае кіроўнае крэсла ў Крамлі. У параўнанні з гэтым ні пра якую незалежнасць Беларусі размова не ішла.

У той час, калі Лукашэнка піў гарэлку і біў келіхі, жадаючы поспеху праекту Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, я меў шчасце сустрэцца з вядомай дысідэнткай Валерыяй Навадворскай. І ўжо тады яна казала: «Вы яшчэ пабачыце, як Аляксандр Рыгоравіч будзе ў партызанах змагацца за незалежнасць Беларусі».

Словы разумнай жанчыны спраўдзіліся даволі хутка. Ужо ў 2001 годзе новы кіраўнік Расіі Уладзімір Пуцін сказаў: «Мухі асобна, катлеты асобна», і прапанаваў увайсці ў склад Расіі шасцю абласцямі. Для Лукашэнкі гэта азначала не тое што адсутнасць здабытку, але і страту таго, што ён ужо мае. Незалежнасць раптам ператварылася ў каштоўнасць, а Саюзная дзяржава — у нейкае дасюль незразумелае ўтварэнне: ці то дзяржава, ці то саюз дзвюх дзяржаў, а часам, пры розных харчовых і нафтагазавых канфліктах — увогуле ў суперніка.

Таму ёсць вялікае пытанне ў тым, што зараз змусіла беларускагакіраўнікавыказацца пра пагрозу незалежнасці краіны.

Праўда, эксперты, якія абсмоктваюць словы Лукашэнкі, больш аптымістычныя. Агульная думка: беларусы за чвэрць стагоддзя незалежнасці ўжо прызвычаіліся жыць у сваёй дзяржаве — хутчэй, насуперак іх ініцыятывам правадыра, чым дзякуючы ім. А таму лёгка «ўвайсціўскладзіншайдзяржавы» не атрымаецца — найперш, будуць супраць самі беларусы. Да таго ж зазначаецца, што прамова Аляксандра Рыгоравіча прагучала 22 чэрвеня, у дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны. І такім мудрагелістым чынам Лукашэнка проста нагадаў вертыкальшчыкам пра сумную дату. Ну і, канешне, гэтая неадназначная заява магла быць напамінам пра афіцыйны «дзень незалежнасці», які сам беларускі правадыр перанёс на 3 ліпеня.

І, безумоўна, узнікла абмеркаванне, якую іншую дзяржаву Лукашэнка меў на ўвазе, куды нам, не дай Бог, прыйдзецца ісці.

Большасць каментатараў лічыць, што гэта Расія. Гэта менавіта тая краіна, якая можа і паглынуць Беларусь, і «развязаць вайну, як ва Украіне». Але, ведаючы Аляксандра Рыгоравіча, варыянтаў больш, чым адзін. Бо калі мы самі «ідзем у склад якойсьці дзяржавы», маючы на ўвазе нашага «старэйшага брата», навошта яму «развязваць вайну, як ва Украіне»?

Гэта можа здарыцца толькі ў тым выпадку, калі Лукашэнка пад «іншай дзяржавай» разумеў зусім не нашага асноўнага стратэгічнага партнёра. З'едлівыя людзі на форумах прапануюць у чарговы раз перанесці дзень незалежнасці — на 4 ліпеня, і на гэтай падставе далучыцца да ЗША. Такім чынам, мы станем эксклавам Злучаных Штатаў, з якімі наўрад ці хто асмеліцца ваяваць.

Але больш цікава было б далучыцца, скажам, да Літвы.

Па-першае, мы ў такім выпадку аўтаматычна становімся сябрам ЕС, які такога фінту вушамі, зразумела, не чакае. Па-другое, гэтак жа аўтаматычна мы апынаемся ў складзе зоны еўра (у гэтым перавага Літвы перад, напрыклад, Польшчай). У выніку ЕС імгненна забывае пра міграцыйныя крызісы і пачынае дапамагаць Сінявокай прывесці яе эканоміку да еўразональных стандартаў — убухваць у яе шалёныя грошы, як калісьці ў Грэцыю. У сувязі са знікненнем краіны паўстане пытанне выплаты набраных ёю крэдытаў, але яно можа вырашацца дзесяцігоддзямі і скончыцца нічым, як гэта было з пазыкамі СССР.

Беларусы аўтаматычна атрымліваюць «бязвіз», паўнавартасны Балонскі працэс, NATO, Сусветную гандлёвую арганізацыю і безліч іншых цацак, з якімі будуць гуляцца доўга і зацята. У сваю чаргу, ЕС узгадвае словы Лукашэнкі пра тое, што аптымальнае насельніцтва Сінявокай — 30 мільёнаў чалавек. Еўрапейскае статыстычнае бюро Eurostat паведамляе, што за 2017 год ЕС прыняў каля паўмільёна ўцекачоў. Калі ўсіх іх накіроўваць у Беларусь, каб давесці лічбу насельніцтва да пажаданай беларускімкіраўніком,праблема мігрантаў вырашыцца на 40 гадоў мінімум. Усе ў плюсе.

Канешне, гэты праект фантастычны. Найперш, таму, што ў гэтым варыянце няма месца самому Аляксандру Лукашэнку. Таму ўсё ж застаецца пытанне, ці меў ён на ўвазе нешта канкрэтнае, кажучы пра пагрозу незалежнасці, альбо гэта было прамоўлена ў запале, як, часцей за ўсё, і бывае.

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

ПРАВАСЛАЎЕ

# ЖЫЦЦЁ МІТРАПАЛІТА: ДРАЗДЫ І "МАЙБАХ"

**Кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Павел 9 ліпеня распавёў пра сваю маёмасьць, выступаючы ў судзе як сьведка па справе аб злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі, піша выданьне Office life.**

**Каго судзяць і за што?**

25 чэрвеня ў Заводзкім судзе Менску пачаўся працэс супраць Уладзімера Грозава, былога першага намесьніка дырэктара выдавецтва Беларускага экзархату.

Агульная сума нанесенай дзяржаве школы складае 3,8 мільёна рублёў, паводле Генпракуратуры.

Праваслаўная царква выставіла Грозаву пазоў на 750 тысяч даляраў, але ў першы дзень працэсу адмовілася ад яго, піша TUT.BY.

Грозава судзяць па трох артыкулах Крымінальнага кодэксу: злоўжываньне службовымі паўнамоцтвамі, перавышэньне улады, няплата мытных плацяжоў. Максымальныя тэрміны адказнасьці паводле гэтых артыкулаў — ад 6 да 12 гадоў турмы.

Паводле Генпракуратуры намесьнік дырэктара выдавецтва Беларускага экзархату скраў 1,2 мільёна рублёў.

**Пры чым тут мітрапаліт?**

Кіраўнік БПЦ мітрапаліт Павел выступіў на судовым паседжаньні 9 ліпеня як сьведка.

Ён паведаміў, што жыве ў рэзыдэнцыі ў Драздах, але зарэгістраваны ў епархіяльным упраўленьні на вуліцы Вызваленьня.

Таксама Павел прызнаўся, што летась на 65-годзьдзе яму падаравалі «Майбах».

Праваслаўны герарх дадаў, што за апошнія 15 гадоў яму ня раз дарылі новыя аўто, частку машын ён «перадаваў манастырам і прыходам».

Павел заявіў, што на гэтым фоне ўжываньня мышыны, якія перадаваліся праз мяжу для выдавецтва БПЦ, — «гэта нармальна».

Мітрапаліт заявіў, што ня бачыць падстаў для «суровага» пакараньня, і папрасіў суд вызваліць Грозава. Падсудны падзякаваў Паўлу за ўдзел у судзе.

**"Радыё Свабода"**

СПРАВА МЕДЫКАЎ

# «КАК ЗАДЕРЖАЛИ — ТАК И ОТПУСТИТЬ МОГУТ»

**По подозрению во взятках задержан главврач Витебской областной клинической больницы Анатолий Оладько. В отношении медика возбуждено уголовное дело.**

По данным КГБ, он является одним из 60 фигурантов уголовного дела о коррупции в белорусском здравоохранении.

**Витебские врачи: «Узнали о задержании Оладько на прошлой неделе»**

От разговора о задержании главврача Анатолия Оладько врачи под разными предлогами уходят. Но на условиях анонимности несколько работников больницы все же согласились пообщаться с TUT.BY.

— О том, что Анатолия Анатольевича задержали, мы узнали на прошлой неделе. По больнице ходили разные слухи... Но виноват он в чем-то или нет, я не знаю. Мы люди маленькие... Своего главврача далеко не каждый день видим.

— Я не верю, что Оладько замешан в каких-то финансовых махинациях. Это профессиональный врач, хороший человек. Думаю, во всем разберутся и его отпустят.

— Нузадержалиизадержали... Ничего особо страшного в этом нет. Как задержали — так и отпустить могут. Сколько уже таких случаев было, когда руководителей в чем-то подозревали, а потом разбирались по существу. Вернется человек на работу, и все пойдет по-прежнему. Мы и так, как видите, ходим на работу, лечим людей, рабочий процесс не остановился.

— Оладько попал под какой-то общий каток «зачистки». Каждый день слежу в интернете за новостями о громких задержаниях медиков. Эту «зачистку» уже прозвали «делом врачей», как в 1953 году. Это нелепо и страшно. И вообще не укладывается в голове: неужели в белорусской медицине все поголовно воры, коррупционеры, преступники? Спрашивается: как тогда они все это время, до задержаний, лечили и спасали людей, писали научные труды, внедряли инновации в медицине? И вообще носили белые халаты?.. Когда им было всем этим заниматься, если они такие страшные взяточники?

Водном изпрошлых интервью TUT.BY Анатолий Оладько отметил, что профессия врача требует не только знаний и опыта, но и духовности:

— Тут свои сложности: ночные дежурства, большие физические и моральные нагрузки, многие службы у нас работают круглосуточно, к нам везут тяжелых больных... Это требует от сотрудников профессионализма и высоких моральных качеств.

**В «деле медиков» уже более 60 фигурантов**

КГБ задержал, заключил под стражу, а также применил другие меры пресечения в отношении 37 должностных лиц, а всего по уголовному делу в отношении работников здравоохранения — более 60 фигурантов.

«Все они многократно получали незаконные денежные вознаграждения за оказание содействия на поставку медоборудования и медицинских препаратов по завышенным ценам, что подтверждается результатами проводившихся длительное время оперативно-разыскных мероприятий, показаниями свидетелей и самих обвиняемых, а также результатами обысков и выемок», — сообщил 11 июля

*(працяг на стар. 4)*

СПРАВА МЕДЫКАЎ

(пачатак на стар. №3)

председатель КГБ Валерий Вакульчик.

Анатолию Оладько — 53 года. В 1987 году он окончил Витебский мединститут по специальности «лечебное дело». Был интерном в областной клинической больнице, потом преподавал в Могилевском медучилище. С 1989 года Оладько работал хирургом в витебской поликлинике имени Калинина. В 1991-м перешел в областную клиническую больницу.

В 2000 году Анатолий Оладько стал главврачом спецдиспансера Витебского филиала научно-исследовательского клинического Института радиационной медицины и эндокринологии. В 2002-м завершил обучение в клинической ординатуре Витебского медуниверситета по специальности «хирургия», а через год стал главврачом его клиники.

Областной клинической больницей Оладько руководит 8 лет, с 2010 года.

В 2014 и 2018 годах Анатолия Оладько избирали в облсовет депутатов. На последних выборах он задекларировал доход за 2016 год в сумме почти 92,9 тысячи рублей, из них 62 тысячи рублей выручил от продажи квартиры, сообщают «Народные новости Витебска».

**Tyt.by**

ПАЛІТЫЧНЫ ДЗЕЯЧ

# «ШАСТОЙ МІКРАФОН... У ЗАДНІМ ПРАХОДЗЕ»

**Сяргей Навумчык напісаў палітычны нэкралёг па Мікалаі Дземянцеі, дзе я вычытаў для сябе два важныя сказы: «Не рабіў подласьцяў» і «Ня быў эталёнам аратарскага майстэрства». Без раскрыцьця гэтых рысаў вобраз колішняга кіраўніка Вярхоўнага Савету ўяўляецца мне няпоўным.**

Першы сказ за апошнія 25 гадоў для беларускага чыноўніка вышэйшага рангу стаў настолькі нехарактэрным, што многія задаюцца пытаньнем: ці можа ўвогуле палітык не рабіць подласьцяў? Пагатоў палітыка, кажуць, брудная справа.

Мне згадваюцца плякаты, зь якімі ў пачатку 1990-х масава выходзілі на пратэставыя акцыі простыя людзі. «Дземянцей — сьмерць нашых дзяцей!» — гэта за хаваньне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, чым увойдзе ў гісторыю іншы тагачасны кіраўнік Сьлюнькоў. Чыноўнікі мала ўплываюць на тое, чым яны застаюцца ў гісторыі. Як ускосна сьцьвярджае Сяргей Навумчык, якраз Дземянцей праўду пра Чарнобыль не хаваў.

Яшчэ адзін плякат з тых мітынгаў, зусім ужо пралетарскі: «Не голосуй за Дементея, он жрет икру, а мы потеем!» таксама меў мала агульнага з рэальнасьцю. Бо сьпікер парлямэнту належаў да той пляяды савецкага і партыйнага начальства, якія ў бытавым пляне жылі «ў мінус» і сьціплась якіх даходзіла да неадэкватнасьці. Маю на ўвазе і вопратку і ўбранства жытла і тыя ўбогія «дачы». Хіба што паёк у цэкоўскім буфэце мог падтрымаць гэтае «жрёт икру». Напэўна, высокая намэнклятура бывала розная, але як сусед Дземянцея ў пад'езьдзе, я толькі дзівіўся зь ягонай сьціпласьці. І, дарэчы, ветлівасьці. Яшчэ адна рыса чыноўніка, ад якой мы напроч адвыклі, — ад яго не чакаеш наезду і агрэсіі, дзеля чаго сёньня стараецца абысьці бокам самага дробначыннага мянта.

У сваёй пляядзе беларускай савецкай намэнклятуры Дземянцей быў ці ня самым калярытным пэрсанажам дзякуючы якраз свайму аратарскаму майстэрству ці немайстэрству. У гэтым сэнсе яго можна параўнаць з расейскім прэм'ерам Чарнамырдзіным. У Беларусі такіх, за кім запісвалі афарызмы ці «афарызмы», больш не было. Гугнявы маўчун Малафееў выказваўся мала. А шустры гаварун Сакалоў, апроч васьміпавярховых сьвінарнікаў, запомніўся адным «філялягічным» казусам. На нейкай нарадзе ў Берасьці тагачасны кіраўнік вобласьці Яфрэм Сакалоў заўважыў над сцэнай цытату з Максіма Горкага «Человек — это звучит гордо» і запатрабаваў дапісаць сьпераду слова «Советский».

Афарызмы сьпікера ВС Дземянцея пра «шастой мікрафон» і дэпутата, які «даўно стаіць у заднім праходзе» згадваюцца з усьмешкай, а сам сьпікер — ці не як адзіны пэрсанаж сярод тагачаснага намэнклятурнага кіраўніцтва, пра якога можна сказаць нешта вясёлае, а таму пазытыўнае.

**Сяргей Дубавец**
**"Радыё Свабода"**

САМААДУКАЦЫЯ

# «ГАЛОЎНАЕ — НЕ БАЯЦЦА»

**Як закаханыя з Расеі вывучылі беларускую мову. Ася Мартынава і Даніл Шкатаў сьцьвярджаюць, што гэта зусім не балюча.**

**Ася і Даніл**

Ася, 17 гадоў. Усё жыцьцё жыве ў Маскве. Дзед па маці быў з Рэчыцы, бацька расеец. У дзяцінстве Ася бывала ў дзеда. Цяпер кожнае лета езьдзіць у Беларусь самастойна. Раз на год прыяжджае ў Менск, дзе знайшла сяброў. Колькі сябе памятае, нешта чытала па-беларуску. Крыху размаўляць пачала ў дванаццаць. У сям'і беларускай мовы не ўжываюць. Бацька праграміст, маці шые і займаецца хатняй гаспадаркай. Акрамя Асі, у сям'і яшчэ чацьвёра дзяцей.

«Ня памятаю, што я першае па-беларуску прачытала, — прызнаецца Ася. — Нешта там чытала, музыкі шмат слухала. Сябры зьявіліся таксама тут, у Менску. Мы зь імі перапісваліся, размаўлялі. Я не заўсёды магу прыехаць, таму ўсё праз інтэрнэт. Але калі прыяжджаю, то мы толькі па-беларуску гаворым. У менскіх крамах, праўда, я не гавару яшчэ па-беларуску. Так прывыкла, мабыць».

Даніл, 18 гадоў. Нарадзіўся і вырас у Мурманску. Беларусам быў дзед, але ён памёр, калі Даня быў зусім малым. Напачатку зацікавіўся польскай мовай, пазьней увогуле славянскімі, але воляй лёсу стаў карэістам. Бацька вайсковец, маці хатняя гаспадыня. Беларускай мовы бацькі ня ведаюць, у Беларусь ня езьдзяць.

«Чытаў нешта па-беларуску, гледзячы ў слоўнік, — кажа Даніла. — У нас у Мурманску беларускай мовы няшмат, зразумела. Бабуля расказвала, што дзеда паслалі туды працаваць, і ён часам раніцай, калі прачынаўся, па-беларуску пачынаў гаварыць аўтаматычна. Дзед працаваў на суднабудаўнічым заводзе, там жа і з маёй будучай бабуляй пазнаёміўся. Яна не разумела па-беларуску. Калі дзед браў бабулю з сабой на радзіму (а ён з-пад Баранавічаў), то яна шмат чаго не магла зразумець. Але некалькі словаў запомніла. Потым мне расказвала, як дні тыдня па-беларуску правільна, як называецца садавіна, гародніна».

**Каханьне**

Ася і Даніл пазнаёміліся год таму на агульнарасейскай гістарычнай алімпіядзе, куды прыехалі як удзельнікі і сталі пераможцамі.

«Мы спачатку па-расейску паміж сабой гаварылі, — расказвае Ася. — Але я потым вываліла ўсё пра свае цікавасьці. У тым ліку да Беларусі і беларускай мовы».

Пазнаёміліся, разьехаліся кожны ў свой горад, сталі перапісвацца. І пачалося.

«Ася ўмее, і мне таксама захацелася, — кажа Даніл. — Праз два тыдні пайшоў у Мурманску ў краму шукаць падручнік беларускай мовы. Знайшоў! Нейкае выдавецтва, якое спэцыялізуецца на мовах. Дакладна ня памятаю, як называецца. Я гэты падручнік потым у Беларусі ў краме бачыў, вялізны такі. У Мурманску нават некалькі розных падручнікаў знайшлося. Размоўнікі ёсьць, але размоўнік гэта ўсё ж не падручнік. З іншымі кнігамі цяжэй. Толькі ў абласной навуковай знайшоў кнігу па-беларуску. Караткевіч, „Паром на бурнай рацэ". Некалькі аповесьцяў, старонак на 30-40 кожная».

Хлопец прызнаецца, што спачатку было не зусім проста, але потым справа наладзілася. «Падпісаўся ў сацсетках на Радыё Свабода, яшчэ некалькі паблікаў знайшоў, — кажа Даніл. — Каб нешта можна было чытаць, адсочваць. Цяпер вось прыехалі, кніг накуплялі».

Загаварыў па-беларуску мурманскі хлопец Даніл праз два месяцы пасьля паходу ў краму па падручнік. Прызнаецца, што падчас першых перапісак з Асяй доўга набіраў паведамленьні, часта глядзеў у слоўнік. «Мы ў траўні пазнаёміліся, а ўжо ў жніўні я больш-менш па-беларуску мог перапісвацца, — расказвае Даніл. — Ужо атрымлівалася».

«Хутка ён навучыўся, вельмі хутка, — кажа Ася. — Спачатку я яму па-беларуску пісала, а ён па-расейску адказваў. Нармальна было, разумеліся. Потым Даня пачаў пакрысе па-беларуску спрабаваць. Вядома, былі нейкія памылкі, але да канца лета навучыўся. Падручнік жа не галоўнае».

Сёньня Даніла і Ася абое жывуць у Маскве, вучацца ў ВНУ. Ася — у Маскоўскім дзяржаўным унівэрсытэце на гістфаку, Даніла — у Маскоўскім дзяржаўным інстытуце міжнародных адносінаў (МГІМО), вывучае карэйскую мову. Між сабой яны размаўляюць па-беларуску. Таксама маюць яшчэ аднаго беларускамоўнага сябра, чый шлях да мовы пачаўся з каталікскага малітоўніка.

«Цікавы чалавек, — кажа Ася. — Таксама зь беларускімі каранямі, але ніхто ў сям'і не размаўляе, таму ён вось так самастойна вывучыў. Нічога, акрамя беларускамоўнага малітоўніка, у яго пад рукой не знайшлося».

У Маскве знайсьці беларускамоўных няпроста. Пара прыгадвае, як 25 сакавіка прыйшлі на сьвяткаваньне 100-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БНР і сустрэлі там людзей сталага веку, кожны зь якіх размаўляў на сваім уласным варыянце беларускай мовы.

«У Менску, дарэчы, мы таксама беларускую ня так часта чуем, — гавораць Ася і Даніла. — Зь сябрамі збольшага па-беларуску можна пагаварыць. Яшчэ мы нядаўна бачылі, як нехта ў мэтро па-беларуску чытаў. І ў Цэнтральным (унівэрсам у Менску. — РС) яшчэ чулі».

«Гэта лухта, што беларускай мовы не існуе і яна толькі дыялект расейскай, — кажа Ася. — Але людзі, якія так лічаць, будуць заўсёды. Калі па-беларуску да некага ў Маскве зьвярнуцца, ён не зразумее. Мне здаецца, што людзей, якія лічаць беларускую мову дыялектам расейскай, у Беларусі больш, чым у самой Расеі. Самае сумнае, што людзі на гэта паддаюцца, у гэта вераць і не спрабуюць даведацца нешта пра сваю культуру. Мы вось прыяжджаем да гэтай культуры з Масквы, а ў людзей яна тут».

**Як вывучыць беларускую за два месяцы. Тры парады**

1. Чытаць

«Трэба пачаць чытаць. Кнігі, артыкулы. Гэта калі ты баісься, табе не хапае словаў, каб размаўляць па-беларуску. Чытаць жа заўсёды можаш. Зразумееш усё альбо амаль усё. Калі нечага не зразумееш, то даведайся, што гэта значыць».

2. Слухаць

«Слухайце нешта па-беларуску. Музыку, іншае. Гэта крыху складаней, але можна даць рады. Асабліва, калі ты вырас у беларускім асяродзьдзі. У галаве ўсё само змантуецца. Гэта як фільмы на замежнай мове з субтытрамі».

3. Не баяцца

«Самае галоўнае. Мы з Расеі прыяжджаем і чуем тут, у Менску, што вы давайце па-беларуску з намі, а мы будзем па-расейску. Бо я баюся, я ня ўмею. Але мы ж не баімся, хоць мы з Расеі. Мабыць, вы ўсе ў нас нейкі акцэнт чуеце, нейкія словы ня так мы гаворым. Але навошта баяцца? Калі пачнеш гаварыць, памылак будзе ўсё менш і менш. У такой моўнай сытуацыі, якая ёсьць, нават не вельмі дасканала гаварыць лепш, чым гаварыць па-расейску. Беларускамоўныя ацэняць. Таму ня трэба баяцца. Гэта, дарэчы, усіх моваў датычыцца».

**Алесь Пілецкі**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.07.2018 у 16.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.